

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 6 (чэрвень), 2013

# Мяжа

## Праваабаронцы “Вясны” наведалі
### могілкі Росы ў Вільні

(Старонка 6)

# ЗЬМЕСТ

# “Яшчэ прыйдзе вясна!”

Праваабарончы цэнтр "Вясна" выпусціў вялікі наклад паштовак у падтрымку палітвязняў. Па словах сябры рады гэтай арганізацыі Таццяны Равякі, надрукавана тры варыянты паштовак, якія кожны жадаючы можа даслаць палітычнаму зняволенаму.




У Беларусі, па дадзеных "Вясны", па палітычных матывах за кратамі знаходзіцца 11 чалавек.

- На паштоўках словы, звернутыя да вязняў: “Дзякуй табе, сябра! Ганарымся, не забываем, любім. Нас многа”. Таксама ёсць паштоўка з выявай дзяўчыны, якая піша ліст: “Я думаю пра цябе. Тое, што ты ёсць, важна для мяне”. Ну, і зразумела, паколькі мы “вясноўцы”, асобны мэсідж - да Алеся Бяляцкага: “Твой лёс важны для мяне”. І на адваротным баку: “Яшчэ прыйдзе вясна!”

Па словах Таццяны Равякі, гэтыя кароткія пасланні, мэсіджы да палітзянволеных выбраны з прапаноў у фэйсбуку пасля таго, як праваабаронцы звярнуліся да грамадзян з ідэяй абмеркаваць выгляд паштовак.

“Рассылка паштовак стане працягам кампаніі салідарнасці з палітзняволенымі, якую Праваабарончы цэнтр "Вясна" праводзіць ужо даўно”, - кажа Таццяна Равяка.

*www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=15243#.UctPF4Zb9aW*

# Не стала брэсцкага абаронцы правоў прадпрымальнікаў Віктара Чайкоўскага

Пасля аперацыі на воку 16 чэрвеня ў мінскай клінічнай бальніцы №9 памёр 46-гадовы берасцейскі актывіст, намеснік старшыні рэспубліканскага грамадскага аб’яднання прадпрымальнікаў “Перспектыва” Віктар Чайкоўскі.



Віктар Чайкоўскі

Яму была зроблена аперацыя на сетцы вока. Віктар перанёс аперацыю добра, кажа яго сябра, прадпрымальнік Віктар Картрыдж, які размаўляў з Віктарам Чайкоўскім у суботу 15-га. Па словах Віктара, пачуваў ён сябе нармальна, сказаў, што ўсё ў парадку. Таму смерць яго выклікала шок у блізкіх і сяброў.

Віктар Чайкоўскі быў паслядоўным змагаром за дэмакратычныя каштоўнасці, прымаў актыўны ўдзел у акцыях пратэсту, неаднаразова затрымліваўся і арыштоўваўся супрацоўнікамі міліцыі і спецслужбамі. У 2010 годзе кіраваў выбарчым штабам Міколы Статкевіча. Неаднаразова падаваў заяўкі на акцыі па вызваленні палітвязняў. Уваходзіў у групу Дзмітрыя Вуса па ініцыіраванню змяненняў выбарчага заканадаўства. Атрымаў папярэджанне пракуратуры аб дыскрэдытацыі дзяржавы ў незалежных сродках масавай інфармацыі.

Дакладная прычына смерці стане вядома пазней.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” выказвае спачуванні родным і блізкім Віктара Чайкоўскага.

*spring96.org/be/news/63928*

## У Берасці тлумачылі правы дзяцей

Пра правы дзяцей гутарылі ў горадзе над Бугам. Сябры берасцейскай абласной арганізацыі Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі (Грамада) правялі культурна-забаўляльную праграму для дзяцей. Традыцыйна быў праведзены конкурс дзіцячага малюнка, па выніках былі выяўлены пераможцы і ўручаны прызы.

- У многіх краінах свету 1 чэрвеня – гэта міжнародны дзень абароны правоў дзяцей, - адзначыла кіраўнік гендэрнага накірунку берасцейскай абласной арганізацыі БСДП (Грамада) Наталля Галаніна. - У нашай краіне гэты дзень пачалі адзначаць нядаўна. Сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) увесь час карыстаецца магчымасцю павіншаваць сваіх дзяцей у гэтае свята і з дапамогай мерапрыемства сабраць людзей і патлумачыць іхнія правы а таксама правесці нейкія цікавыя мерапрыемствы, якія запомніліся б дзецям на ўсё жыццё.

31 траўня жынчыны БСДП (Грамада) у Берасці правялі семінар па раскрыццю лідарскага патэнцыялу жанчын з актыўнай жыццёвай і палітычнай пазіцыяй.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=14510#.Ua15WoZb9aV*

## Брэсцкі раённы суд пачне пераглядаць справу Віталя Каўша

Тым самым выконваецца пастанова абласнога суда, які адмяніў папярэдні прысуд.

Пра тое, што першае паседжанне пройдзе 6 чэрвеня а 10-й гадзіне, паведаміў у лісце сам Віталь Коўш. Ён піша, што не лічыць сябе вінаватым і спадзяецца на справядлівасць суда.

Нагадаем, што 29-гадовы грамадскі актывіст знаходзіцца за кратамі з верасня мінулага года. Каўша вінавацяць у тым, быццам ён летась у траўні арганізаваў праход над беларуска-польскай мяжой па канаце групы з васьмі індусаў. Першапачатковы прысуд быў чатыры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Між тым падчас працэсу ўскрылася шмат памылак і

несупадзенняў у матэрыялах следства. Акрамя таго, два індусы мінулай восенню распаўсюдзілі ў сеціве ролік, на якім засведчылі, што ў Брэсце іх змушалі да паклёпу на не знаёмых ім людзей.

*euroradio.fm/brescki-rayonny-sud-pachne-peraglyadac-spravu-vitalya-kausha*

## Праваабаронцы “Вясны” наведалі могілкі Росы ў Вільні

9 чэрвеня, у дзень народзінаў Івана Луцкевіча, праваабаронцы і юрысты «Вясны» наведалі могілкі Росы ў Вільні. Апранутыя ў новыя цішоткі з надпісам "ВЯСНА - не толькі пара года" яны прайшліся ад Беларускага Дома правоў чалавека ў выгнанні да знакамітага гістарычнага месца, дзе пачаткова меркавалася правесці талаку і прыбраць могілкі.




Пешая прагулка па горадзе атрымалася даволі шматлюднай. Яна выглядала як арганізаванае мірнае шэсце. Калі б падобная акцыя праводзілася ў Беларусі нават у такім выглядзе, улады маглі ўспрыняць яе за несанкцыянаваную дэманстрацыю з усімі вынікаючымі наступствамі. У Вільні ж даволі экзатычнага выгляду паліцыянты "на колах", што аднойчы сустрэліся на шляху, нават не звярнулі ўвагі на "дэманстрантаў".

Ад самага пачатку, на могілках знакамітых продкаў меркавалася зрабіць талаку, але нехта клапатлівы на іх ужо належным чынам прыбрася. Такім чынам меркаваная талака пераўтварылася ў пазнавальную экскурсію. Праваабаронцы сфатаграфаваліся на памяць ля помнікаў Івану Луцкевічу ды Францішку Аляхновічу... Дзякуючы "талацэ" многія з іх апынуліся ў гэтым гістарычным месцы ўпершыню.

*P/S*

Нагадаем, што 9 чэрвеня 2013г. споўнілася 132 гады з дня нараджэння вядомага палітыка і навукоўца Івана Луцкевіча.

Разам са сваім братам Антонам ён быў адным з галоўных ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе.

Іван Луцкевіч нарадзіўся 9 чэрвеня 1881 года ў літоўскім Шаўляі. Ён паходзіў з шляхецкага роду герба «Навіна».

Адна з ініцыятараў і актыўная ўдзельніца акцыі на могілках Росы ў Вільні Таццяна Равяка адносна фотаздымкаў ля магілы Францішка Аляхновіча піша ў сваім фэйсбуку: "Вось у каго ў жыцці ўсяго было намешана - і творчасць, і Салавецкі лагер, і калабаранцтва, і загадкавая смерць. Як напісаў пра яго Алесь Бяляцкі: "Ён жыў у тыя часы, калі лёсы людзей вырашалі гістарычныя абставіны...". Думаю, што і нашыя сённяшнія часы адносяцца да такіх гістарычных перыядаў."

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=14780#.UbdurYZb9aV*

## Алег Гулак: Справаздача спецдакладчыка ААН даволі поўная і аб'ектыўная

Справаздача спецдакладчыка ААН Міклаша Харашці пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі, з якой ён выступіў на пасяджэнні Камітэта па правах чалакека ААН у Жэневе, даволі поўная і аб'ектыўная, лічыць старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта **Алег Гулак**.

Ён асабіста ўдзельнічаў у пасяджэнні Камітэта па правах чалавеку ААН. Вярнуўшыся ў Менск, падзяліўся сваімі ўражаннямі і меркаваннямі з карэспандэнтам Радыё Рацыя



Генадзем Барбарычам.

**РР: Якое ўражанне зрабіла справаздача Міклаша Харашці? Што ў ёй самае галоўнае?**

**Алег Гулак**: *Я б перш за ўсё адзначыў тое, што яна збалансаваная і даволі комплексная. Яна дае даволі поўную інфармацыю, аб'ектыўны погляд на сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Наколькі я ведаю, спадар Харашці рэальна спрабаваў скарыстаць усе магчымасці для атрымання інфармацыі. Ён быў заўсёды адкрыты і не проста адкрыты, шукаў магчымасці атрымання інфармацыі ад дзяржаўных структур, каб справаздача была максімальна аб'ектыўнай. Тое, што размовы з уладамі не атрымалася, гэта не яго віна, а наша агульная бяда. Таму што, на маю думку, вельмі важна саму працу спецдакладчыка, сам факт прызначэння спецдакладчыка, успрымаць не як нейкую санкцыю супраць краіны, а як той інструмент, які міжнародная супольнасць, Арганізацыя Аб'яднаных Нацый выпрацавала, каб у праблемных сітуацыях дапамагаць розным краінам гэтыя праблемы вырашаць. Можна, канешне, зрабіць выгляд, што ў нас ніякіх праблемаў няма. Але, насамрэч, гэта не так, праблемы ёсць. Да іх вельмі неадназначнае стаўленне. Гэта праблемы вельмі палітызаваныя. І як раз таму было б важна скарыстаць такія незалежныя аб'ектыўныя механізмы і інструменты працы, каб максімальна аддзяляць, як кажуць, зёрны ад плевел і працаваць над вырашэннем тых праблем, якія рэальна існуюць.*

**РР: А якое месца ў справаздачы знайшлі ўжо даўнія, але самыя вострыя праблемы, такія, як знікненні і забойствы палітычных апанентаў беларускай улады, журналістаў? Складаецца ўражанне, што гэтыя праблемы адыходзяць ужо нават не на другі, а на трэці план. Ці павінна так быць?**

**Алег Гулак**: *Гэта тыя праблемы, якія рэальна існуюць і пра якія забывацца нельга і не магчыма. У любым выпадку, гэта ёсць у*

*памяці, ёсць у гістарычнай памяці, ёсць у юрыдычнай памяці. Ад гэтага нікуды не дзенешся. З другога боку, сёння ўсё ж такі гэта не найпершая задача. А гэта адна з тых задач, якіх перад краінай вельмі шмат. Таксама зразумела, што справаздача спецдакладчыка - гэта ў пэўным сэнсе інструмент міжнароднага супрацоўніцтва, міжнароднага ўздзеяння. І зразумела, што спецдакладчык шукае і тыя крокі, на якія ўлады Беларусі могуць працей пайсці. І, канешне, гэта не такія цяжкія пытанні, як палітычныя знікненні. Але гэтая праблема нікуды не знікае. Яна павінна будзе вырашацца.*

**РР: Рэакцыя ўдзельнікаў абмеркавання справаздачы Міклаша Харашці была дастаткова бурнай і абсалютна супрацьлеглай.**

**Алег Гулак**: *Рэакцыя тых ці іншых дзяржаў, тых ці іншых прадстаўнікоў дзяржаў была прадказальнай. Бо на сёння вялікая праблема ў тым, што правы чалавека вельмі моцна палітызаваны. І з той праблемы, якая непасрэдна важна для людзей, якая кранае кожнага чалавека, гэтая праблема ператвараецца ў інструмент вырашэння палітычных спрэчак. Гэта вельмі шкодна для людзей і для правоў чалавека. Але калі гаварыць аб тым, хто ў гэтым вінаваты, то, на мой погляд, у гэтым больш вінаваты тыя, хто правы чалавека парушае. І пазбягаючы таго, каб мяняць свае падыходы ў гэтай сферы, ператвараюць усё ў палітыку. Усё ж галоўную адказнасць за тое, што з правамі чалавека адбываецца такое, нясуць дзяржаўныя структуры. Таму, разумеючы сённяшнюю сітуацыю, рэакцыя Венесуэлы, Кубы, Сірыі, Узбекістана, Расіі была, канешне, прадказальнай. Бо яны ўспрымаюць гэтыя працэдуры такім жа чынам, як і ўлады Беларусі. Але са свайго досведу працы ў Жэневе магу сказаць, што мне было вельмі цікава, і важна, і трошкі дзіўна пачуць, напрыклад, ад афрыканскіх краінаў, што яны цалкам па іншаму ўспрымаюць гэта. У тым ліку гучала і такая пазіцыя, што калі рэзалюцыя па Беларусі будзе прынята, то яны будуць спрабаваць дапамагаць зразумець, тлумачыць, што з гэтымі міжнароднымі працэдурамі трэба супрацоўнічаць. Менавіта такім чынам трэба ўстрымаць падобныя аанаўскія механізмы і дзеянні.*

**РР: Але беларускія ўлады слухаюць гэтыя справаздачы і кажуць - гэта ўсё перадузята, у нас усё добра. Заходні бок таксама настойвае на сваім. Кампраміса няма, і дзе ж выйсце з гэтага клінчу?**

**Алег Гулак**: *Так, сітуацыя насамрэч няпростая. І няма ніякага рэцэпту, як яе вырашаць. Але я думаю, што гэта як мінімум, не падстава, каб адмаўляцца ад такіх інстытутаў, такіх інструментаў, каторыя дзейнічаюць у сістэме ААН. З другога боку, трэба і тым краінам, якія падтрымліваюць працяг працы спецдакладчыка па Беларусі, і самім аанаўскім працэдурам, памятаць пра тое, што вельмі важна ўвесь час падкрэсліваць і рэальна працаваць у такім вось ключы, каб быць арыентаваным на дапамогу ў вырашэнні гэтых праблем. То бок карыстацца не мовай ультыматымаў, не мовай нейкіх пагрозаў, а выкарыстоўваць механізмы, уплыў, інструменты для таго, каб дапамагаць вырашаць праблемы. Нажаль, ці не нажаль, але існуючая сістэма іншага ўсё адно зрабіць не можа. А калі гэта робіцца нейкім чынам ультыматыўна, то тады ў крытыкаў такіх міжнародных інструментаў, як пасада спецдакладчыка, з'яўляюцца дадатковыя падставы, каб гаварыць, што гэта палітычны інструмент. Хаця насамрэч, самі гэтыя крытыкі і робяць сітуацыю з правамі чалавека палітычным інструментам. Але трэба гэта разумець і не даваць такіх падставаў, і рэальна быць гатовым, каб гэтую дапамогу аказаць.*

**РР: Але ўлады Беларусі ўвесь час выказваюць нязгоду з існаваннем пасады спецдакладчыка па правах чалавека ў Беларусі.**

**Алег Гулак**: *Я лічу, што пасада спецдакладчыка з'ўляецца, перш за ўсё, магчымасцю, якую краіна, а гэта і ўлады, і грамадзянская супольнасць, і палітычныя партыі, і ўсе, хто зацікаўлен у развіцці, маглі б скарыстацца для паляпшэння сітуацыі. Я хацеў бы бачыць гэта менавіта такім чынам*

Алесь Гулак выказаў спадзяванне, што хоць у нейкім выглядзе развіццё ў падобным накірунку стане магчымым у бліжэйшай будучыні.

*www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=14653#.UbF9PYZb9aV*

# Брэст: Камітэт ААН прызнаў парушэнне права на свабоду і асабістую недатыкальнасць Жаны Коўш

Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэнне па скарзе брэсцкай актывісткі руху “За Свабоду” Жаны Коўш. У рашэнні гаворыцца пра выяўленныя парушэнні права на свабоду і асабістую недатыкальнасць у адносінах да прадстаўніцы грамадскага аб’яднання падчас яе затрымання.

Як паведаміў праваабаронца Раман Кісляк, які прадстаўляе інтарэсы актывісткі, Жанна Коўш звярнулася ў Камітэт па правах чалавека ААН яшчэ ў 2008-м годзе са скаргай на тое, што яе двойчы затрымлівалі ў Брэсце па падазрэнні ў здзяйсненні крымінальных злачынстваў (кожная з гэтых справаў пасля была спынена) і змяшчалі ў ізалятар часовага ўтрымання. У першым выпадку Ж.Коўш знаходзілася там у чаканні суда 61 гадзіну, у другім - 72. Актывістка лічыць, што ўтрыманне пад вартай звыш 48 гадзін без дастаўлення да суддзі з'яўляецца парушэннем яе права на свабоду і асабістую недатыкальнасць згодна Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах.

“Камітэт ААН у абодвух выпадках прызнаў парушэнні Пакта, - патлумачыў Раман Кісляк. - Пры гэтым важна адзначыць, што да гэтага часу ніхто не ставіў перад гэтым міжнародным органам пытанне аб парушэнні Пакта пры больш кароткім, чым 72 гадзіны, тэрмін утрымання пад вартай без дастаўкі да суддзі. Камітэт у справе Жанны Коўш усталёўвае новы стандарт ААН: 61 гадзіна без дастаўлення да суддзі затрыманага таксама з'яўляецца парушэннем Пакта”.

Праваабаронца лічыць, што высновы Камітэта па справе Жанны Коўш непазбежна прывядуць да перагляду заканадаўства аб затрыманні і заключэнні пад варту як у Беларусі, так і ў іншых дзяржавах - удзельніцах Пакта, якія пакуль яшчэ не ўвялі 48-гадзінны максімальны тэрмін для дастаўлення да суддзі затрыманага. “Уключэнне такой нормы ў заканадаўства стане гарантыяй ад неабгрунтавана працяглых затрыманняў грамадзян”, - заявіў Кісляк.

*spring96.org/be/news/63607*

## Сваякі пакаранага смерцю патрабуюць выдачы цела

Маці і сястра расстралянага Уладзіслава Кавалёва - Любоў Кавалёва і Таццяна Казяр звярнуліся ў Міністэрства ўнутраных справаў са скаргай на адказ Дэпартамента выканання пакаранняў.

Дэпартамент адмовіўся паведаміць пра месца пахавання Уладзіслава Кавалёва, зрабіўшы спасылку на адпаведны артыкул Крымінальнага кодэкса.

Аднак павінен прымяняцца 7-ы арыкул Міжнароднага пакта, кажа праваабаронца Раман Кісляк, які кансультуе родных Кавалёва:

- У 7-ым артыкуле аб грамадзянскіх і палітычных правах прадугледжана забарона катаванняў і жорсткіх, бесчалавечных адносінаў, якія прыніжаюць чалавечую годнасць. Камітэт па правах чалавека ў рашэнні па справе Уладзіслава Кавалёва паказаў, што правы блізкіх былі парушаныя тым, што не было паведамлена пра месца яго пахавання.

У гэтым рашэнні камітэт запатрабаваў ад дзяржавы рассакрэціць месца пахавання расстралянага Кавалёва.

Уладзіслаў Кавалёў быў абвінавачаны ў неданясенні і пасобніцтве ў тэракце. Расстраляны ў сакавіку мінулага года.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=14811#.UbdusoZb9aV*

## Аднавілі на працы без магчымасці працаваць

Звольненаму і ўзноўленаму на працы галоўнаму бухгалтару прыватнай будаўнічай фірмы “Спікатэхком”, сябру незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Аляксандру Вайцешыку дырэкцыя фірмы не дала магчымасці працаваць. Вайцешыка перавялі ў кабінет, дзе ёсць толькі стол і крэсла. Няма аргтэхнікі і нават электрычнасці, кажа Аляксандр:

– Дзве вымовы зроблена, адхіленне ад працы, потым па надуманых прычынах за кошт вымоў звольнены. Нібыта не выконваў абавязкі, нібыта спазняўся на працу. Аднак судом былі адмененыя дадзеныя вымовы. На працы адноўлены, аднак адразу ў першы дзень зменшылі заробак на траціну і не дапускаюць да

працы. Далі кабінет, дзе няма нават электрычнасці.

Аляксандр Вайцешык звярнуўся з заявай да дырэктара фірмы Дзмітрыя Гумінскага, каб стварылі належныя ўмовы для працы.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=15162#.UcYDn4Zb9aV*

## Вячаслаў Сіўчык: Не трэба думаць, што сітуацыя ў Беларусі безнадзейная

Калі вызваляць палітвязьняў, калі вернуцца палітуцекачы, і ці калі-небудзь пераможа Плошча?.. Вы скажаце: з такімі пытаннямі трэба ісьці да гадалкі, а не задаваць іх палітвязьням ды палітыкам. Тым ня менш, менавіта ад стану згаданых рэчаў залежыць жыццё і маральнае самаадчуванне многіх беларусаў.

Пра гэта, ды і шмат што іншае, мы шчыра пагутарылі з адным з першых палітвязьняў незалежнай Беларусі — Вячаславам Сіўчыкам.

**– Вячаслаў, Вы заўсёды казалі, што часова з’ехалі з Беларусі ва Украіну. Ці ўдалося хоць трохі там наладзіць жыццё?**

– Я не ставіў на мэце наладзіць сваё жыццё на чужыне. Ва Украіне я апынуўся толькі ў лютым 2011 года. Мяне некалькі разоў спрабавалі незаконна арыштаваць (па, хутчэй за ўсё, крымінальных справах) у Беларусі ў 2010 годзе. Гэта было і пры маім незаконным затрыманні 27 ліпеня. Была спроба арышту 18 снежня, за суткі да Плошчы. Нягледзячы на гэта, я здолеў дайсьці да Плошчы 19 снежня, і нягледзячы на тое, што быў адсечаны ланцугом спецназу ля ганка Дома Ўрада, здолеў сысьці з Плошчы. Хацеў бы паўтарыць тое, што ўжо казаў у некалькіх інтэрв’ю. Я апынуўся ля ганка ў той момант, калі кандыдатаў у прэзідэнты Міколу Статкевіча і Андрэя Саннікава выцягнулі туды быццам бы для перамоваў з міліцэйскім начальствам. Ніякіх перамоваў не было, замест гэтага пачалася брутальная зачыстка Плошчы, пайшоў спецназ. Раніцай 20 снежня ўжо было зразумела, што Беларусь чарговы раз напаткалі масавыя рэпрэсіі. Я бачыў неадэкватныя дзеянні прадстаўнікоў сілавых структураў не толькі на плошчы Незалежнасьці, дзе сьвядома калечылі людзей, праяўляючы асаблівую жорсткасьць супраць дзяўчат і жанчын. Але мне прыйшлося пабачыць на свае вочы і гэткія ж неадэкватныя дзеянні сілавых структураў Лукашэнкі ў раёне плошчы Свабоды. Ноччу стала вядома, што арыштаваныя сем з дзевяці альтэрнатыўных Лукашэнку кандыдатаў у прэзідэнты (як вы ведаеце, гэтага лёсу

пазьбеглі толькі Я.Раманчук і В.Цярэшчанка, якія згадзіліся выступіць па тэлевізіі з загадзя падрыхтаванымі гэбістамі тэкстамі, у якіх усё было пастаўлена з ног на галаву, бо людзей, якіх незаконна зьбівалі і арыштоўвалі, яшчэ абвінавачвалі ў быццам бы незаконных дзеяннях).

20 сьнежня я вёў першую прэсавую канферэнцыю ва Управе БНФ з удзелам прадстаўнікоў асноўных палітычных сілаў Беларусі, дзе была агучаная праўда пра падзеі 19 сьнежня. Да моманту прэсавае канферэнцыі двух кандыдатаў у прэзідэнты вызвалілі, калі яны пагадзіліся ў больш мяккай форме, чым Раманчук, даць інтэрв’ю БТ. 21 сьнежня я ўдзельнічаў у прэсавай канферэнцыі апазіцыі, якая на той момант была аб’яднаная, з дзьвюма патрабаваннямі: вызваленнем незаконна арыштаваных людзей і непрызнаннем так званых прэзідэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 года. На жаль, мая напаўлегальная дзейнасьць спынілася 25 сьнежня, калі ў дзясятках кватэраў былі праведзеныя ператрусы КДБ. У тым ліку — па крымінальнай справе за Плошчу ператрус быў праведзены на кватэры па маім месцы прапіскі. Ведаючы, што мяне арыштуюць пры першай магчымасьці, я знаходзіўся ў Менску яшчэ паўтары месяцы. З’ехаў, таму што ніколі не думаў, што будзе такая зацяжная хваля рэпрэсіяў у Беларусі, бо не было адэкватнае рэакцыі Захаду на рэпрэсіі. Першапачаткова я меркаваў вярнуцца да Дня Волі 2011 года, крыху падлячыўшыся ва Украіне.

**– Ці думалі забраць у Кіеў ці іншы ўкраінскі горад сваю сям’ю? Калі не — ці не зьбіраецеся дахаты?**

– Сям’ю забіраць у Кіеў я ніколі не збіраўся. Ды і такіх магчымасцяў у мяне ніколі не было. Яшчэ на першых публічных прэсавых канферэнцыях ва Украіне я мусіў адказваць на пытанне, калі я вярнуся дахаты. Я адказаў, што вярнуся ў Беларусь, калі будуць вызваленыя Мікола Статкевіч і Зьміцер Дашкевіч.

**– Як да Вас ставяцца ўкраінскія ўлады? У якой сітуацыі іншыя палітычныя ўцекачы з Беларусі?**

– Украінскія ўлады ставіліся да мяне нейтральна. (На момант нашай гутаркі Вячаслаў Сіўчык перабываў у адной з краінаў Еўразьвязу — palitviazni.info). Я не закранаў унутраныя ўкраінскія палітычныя пытанні, бо заўсёды падкрэсліваў, што з’яўляюся госьцем на ўкраінскай зямлі. Ва Украіне маю шмат сваіх

пабрацімаў, бо нават па першай сваёй крымінальнай справе (1996 год) сядзеў разам з унсоўцамі. Шмат каго з дэпутатаў Вярхоўнае Рады Украіны я знаю з 90-ых гадоў, калі ўваходзіў у кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Шмат з кім я пазнаёміўся, калі быў каардынатарам беларускае групы падчас Памаранчавае рэвалюцыі.

Я ніколі не быў ва Украіне палітычным уцекачом. Так склаўся мой лёс, што я проста не мог застацца на волі ў Беларусі. Знаю шмат беларусаў, якія спрабавалі прасіць палітычны прытулак ва Украіне. Па вялікім рахунку, спроба яго атрымаць – рэч абсалютна бессэнсоўная. Украіна, у адрозненні ад краінаў Еўрасаюза, не надае адпаведнага статусу беларусам, якія змагаюцца з Лукашэнкам.

**– Ці маглі Плошчы 2006 і 2010 гг. зьмяніць сітуацыю ў краіне? Чаго, на Вашую думку, ім не хапіла?**

– Маглі. Не трэба думаць, што сітуацыя ў Беларусі безнадзейная. Абсалютная большасьць беларускае нацыі хоча жыць нармальна. Таму ім непатрэбныя Лукашэнка і ягоны рэжым. На жаль, у Беларусі няма выбараў ад 1996 года. Таму праз маніпуляцыі большасьцьператвараюць у меншасьць, у т.зв. «пятую калону», але гэта ўсё можа быць зламана ў момант, калі Лукашэнка мусіць праводзіць т.зв. прэзідэнцкія выбары. У гэты момант у беларускай нацыі ўзьнікае шанец, які вельмі праблематычна, але ж можна выкарыстаць.

Чаго не хапае? Адказ не зьвязаны з унутранабеларускай сітуацыяй. Не хапае, каб Беларусь не была ў зоне ўплыву Расейскае Федэрацыі.

**– Вы часта ладзіце ва Украіне імпрэзы, на якіх згадваюцца як беларуская гісторыя, так і сучаснасьць. Чаго хочаце такім чынам дамагчыся? Ці гэта атрымліваецца? Што перашкаджае забыцца на нашыя падзеі, як на кашмарны сон, і жыць далей новым жыццём?**

– Ва Украіне я са сваімі паплечнікамі правёў сотні акцыяў. Гэтыя акцыі адбываліся пры падтрымцы і ўдзеле ўкраінскіх патрыётаў, якія рэпрэзэнтавалі розныя палітычныя партыі і грамадскія аб’яднанні. Мэта гэтых акцыяў была дасягнутая. Мы маральна падтрымлівалі беларусаў, якія ў невыносных умовах ладзілі акцыі супраціву ў Беларусі. Адначасова мы прымусілі Украіну глядзець

на Беларусь сваімі вачыма, а не праз лубянкаўскія маніпуляцыі.

**– Ці вядомыя Вам лёсы ўкраінцаў, што сядзелі па палітычных справах у Беларусі?**

– Справа ў тым, што з усімі сямю украінцамі, якія сядзелі па палітычных справах пасьля Чарнобыльскага Шляха-96, мне прыйшлося пазнаёміцца альбо падчас майго знаходжання ў Фрунзенскім РАУСе, альбо на Акрэсціна. Я быў адзіным сьведкам ад кіраўніцтва БНФ на адкрытым судовым працэсе па крымінальнай справе унсоўцаў, на сьведчанні якога не спаслаўся пракурор, бо я сказаў праўду, бо ўкраінцаў катавалі практычна на маіх вачах. Кіраўніка ўкраінскае групы Уладзіміра Салаўя я наступны раз пабачыў толькі ў канцы 2004 года, падчас Памаранчавае рэвалюцыі, ля беларускіх намётаў на Хрэшчатыку. Спадар Уладзімір памёр у дзень інаўгурацыі Віктара Юшчанкі. На пахаванні, якое адбылося на Байкавых могілках горада Кіева, я перадаў ягоным сынам медаль Кастуся Каліноўскага — у якасьці падзякі за тое, што зрабіў гэты мужны ўкраінец для Беларусі. З большасьцю іншых украінцаў, якія сядзелі за палітычныя справы ў Беларусі, я бачыўся на пятнаццацігоддзе Чарнобыльскага Шляха-96. Ва УНІАН адбылася супольная прэсавая канферэнцыя Руху Салідарнасці «Разам» і УНА-УНСО. На гэтай прэсавай канферэнцыі з боку ўкраінцаў выступаў Сяргей Патапаў, які быў асуджаны на год і тры месяцы і вызвалены быў «па УДО» з беларускае турмы. На вялікі жаль, падчас знаходжання ва Украіне я не знайшоў Андрэя Шэпціцкага, якога я апошні раз бачыў у Менску 27 ліпеня 1997 года, калі ён выступаў на мітынгу апазіцыі пасьля свайго вызвалення з магілёўскае турмы.

**– Які з Вашых арыштаў Вам запомніўся найбольш і чаму?**

– Напэўна, першы, 26 красавіка 1996 года, бо я яго не чакаў. Да гэтага мяне некалькі разоў затрымлівалі, але ж нават баяліся складаць пратаколы. А пасля 1996 года я разумеў, што мяне могуць затрымаць у любы момант…

*palitviazni.info/naviny/2013/06/12021*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»